Цана 200 мк.

Год II. Вільня, 11 лютага 1923 г. № 3 (15).

# ВЫЗВАЛЕНЬНЕ НАРОДУ

## Тыднёвая Народная Газэтка

Орган П. Н. П. „Вызваленьне“ Віленскай, Наваградзкай і Палескай земляў.

| | | |
|---|---|---|
| Цана нумару 200 марак. Газэтка каштуе з паштоваю перасылкаю, ў месяц 1000 марак. Без паштовай перасылкі ў месяц 800 марак. | Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Мастовая вул., 1, НародныДом „Одродзэнэ“. Тэл. 618. Рэдакцыя адчынена ад 1—2 і 4—5 г. | Абвесткі: Цэлая старонка. . . . . 50.000 мк. ½ старонкі . . . . . . 25.000 „ ¼ „ . . . . . . 15.000 „ Дробныя абвесткі. . . па 500 „ за радок |

*Кіраўнік Рэдакцыі:* ЛЮДЗЬВІК ХОМІНСКІ. *Сябры Рэдакцыі:* С. ВАЯВОДЗКІ, Ф. ГАЛАВАЧ, С. ВАЛІН, В. ШАКУН, Б. ІГНАТОВІЧ, Я. ДРАЗДОВІЧ, М. ДВАРЭЦКІ, А. ШАПЕЛЬ.



Ў НЯДЗЕЛЮ, 25 ЛЮТАГА
адбудзецца
**Павятовы Зьезд**
П. Н. П. „ВЫЗВАЛЕНЬНЕ“
**у Дунілавічах**
На зьездзе будзе пасол **ГАЛКА**.



4 САКАВІКА АДБУДЗЕЦЦА
**Павятовы Зьезд**
Сяброў і сымпатыкаў
П. Н. П. „ВЫЗВАЛЕНЬНЕ“
**у Браслаўлі**
Будуць паслы: **Ант. Галка і Ян Адамовіч**
Вызваленцы, зьяўляйцеся грамадой.

## ПАСЬЛЯ КОНГРЭСУ.

Вялікая грамада вясковага народу, сьвядомая ў сваіх жаданьнях і імкненьнях зьехалася і зыйшлася ў нядзелю да Вільні. Тысяча й колькі сотняў дэлегатаў ад вёсак і засьценкаў з розных паветаў Віленшчыны і Наваградчыны запаўнялі праз два дні салю Польскага Рабочага Дому ў Вільні. Лік прысутных ў апошні момант Зьезду быў няменшы, як пры яго пачатку. Дык відаць было вялікае усьведамленьне і выпрацаваньне вясковага народу, а таксама зацік уленасьць яго сваімі уласнымі справамі.

Вясковыя дэлегаты паднімалі справы палітычныя, уносілі шмат прапазы цыяў, яшчэ больш ажыўленая дыскусія была аб гаспадарчых справах, усе паказывае, што вясковы народ прабудзіўся, што бярэцца да працы над сваім Вызваленьнем з путаў векавое няволі. Бо нічога ня значыць, што ўпалі путы паншчыны, што народ фармальна мае поўнату праваў — фактычна ён топіцца ў далей у цемнаце і несьвядомасьці, часта робячы сам сабе нашкоду.

Усе памятайце гэтыя, поўныя сьвятое праўды словы сэнатара Навіцкага: „*Сіла паноў эндэкаў апіраецца на нашай слабасьці*“. Вясковы народ несьвядомы, ня ўмеючы арыентавацца, лёгка даецца браць яго на прынаду ашуканцаў, што выступаюць пад прыгожымі маскамі. Гэта выказалася выразна пры прайшоўшых выбарах. Вясковы народ, які складае 80% жыхароў Польскае Дзяржавы мае ў Сойме на 444 паслы ледзь толькі 49 сваіх шчырых абаронцаў—паслоў Вызваленцаў. Гэта складае толькі 10% агулу паслоў, гэта значыць, што з дзесяцёх толькі адзін селянін падаў свой голас за сваю шчыра народную партыю „Вызваленьне“, рэшта дзевяць аддалі карткі за панскую „хьену“, альбо за спекулянцкую адзінку.

Дык і нічога дзіўнага, што працоўнаму народу ў Польшчы нядобра. Правіцовая большасьць у Сойме старан на дбае аб тым, каб гэтая зямля для мужыка была ня раем, а пеклам.

А чыя віна ўва ўсім гэтым? Перш за ўсе — наша агульная, бо мы, калі навет і не аддалі сваіх галасоў за ворагаў, дык іншых, цямнейшых зямляка усьведамляць і вучылі, бо мы зямляка падтрымлівалі сваю народную партыю. Дык будзьце адсюль вы, шчырыя і сьветлыя народнікі—Вызваленцы, паводлуг словаў сэнатара Навіцкага, апосталамі гэтае вялікае Народнае ідэі, старанна працуйце над яе пашырэньнем, ня гледзячы ні на якія труднасьці, перашкоды і навет прасьледаваньні, аж пакуль цераз супольную працу і гарт, цераз супольную неўмалімую нашу барацьбу за правы народных масаў дойдзем да сваёе мэты—Польскае Народнае Рэспублікі—маткі, а ня мачахі дзеля ўсіх дзяцей сваіх.

Дык ад сягоньняшняга дня павін на пачацца па ўсёй зямлі нашай узмоцненая праца, над асьвечаньнем, усьведамляньнем і арганізаваньнем Народу. У кожнай вёсцы, валасьці, павеце павінны паўстаць гурткі „Вызваленьня“. Усюды павінны адбывацца сходы і вечы. Кожны селянін павін намецца у руках сваю Вызваленчую кнігу ці газэту, каб з яе давядацца аб усёй праўдзе, ня чэрпаючы атруты з фальшывых эндэцкіх газэт і брашураў.

Але, каб гэтыя народныя кнігі і газэты маглі выходзіць, кожны селянін павінен прылажыць свой грош, хай кожная вёска і воласьць часта робіць зборы на патрэбы народнае партыі.

Хай кожны вызваленец у свой час плаціць грошы за выпісаную газэтку і тады чысьцей яе будзе адтрымліваць і больш у ёй будзе друкавацца.

І калі ў гэтым сваім народным апостальстве вытрываем даўжэйшы час, старанна працуючы для свайго Вызваленьня, дык можам быць пэўнымі, што пасьля будучых выбараў у Сойме засядуць праўдзівыя абаронцы і прыяцялі працоўнага народу, а не яго ворагі і здраднікі і тады скончыцца наша нядоля пачнецца час шчасьця й радасьці.

Дык старанна працуйце, браты Вызваленцы дзеля лепшага заўтра, дзеля сябе і дзеля сваіх дзетак.

Бо яно ўжо нёд лёка, ўжо сьвітае заранка Вызваленьня.

Дэлегат на Конгрэс
з Браслаўскага пав.

## Пісьмы з Сойму.

*Варшава, 6 лютага.*

### I.

**Як працуе Сойм.**

Нарэшце Сойм заняўся паважнаю працаю. Штосьці доўга мы гэтага чакалі. Выбары адбыліся 5 лістапада, 28 лістапада Сойм сабраўся, 9 сьнежня выбраў разам з Сэнатам Прэзыдэнта Рэспублікі Нарутовіча. 16 сьнежня Прэзыдэнт быў забіты эндэкам, 20 сьнежня быў выбраны новы Прэзыдэнт і Сойм разьехаўся на сьвяты.

Сабраўся йзноў толькі 8 студня і чакаў, што скажа новы першы міністар Сікорскі. Ен сказаў сваю прамову, а пасьля яму адказвалі ўсе партыі і толькі 23 студня Сойм пастанавіў, каб гэн Сікорскі, як старшыня ўраду застаўся пры ўладзе і паказаў, ці ўсе тыя рэчы аб якіх гаварыў — таксама патрапіць і ў жыцьцё правесьці.

